# МЕНСКАЕ ЖЫЦЬЦЕ.

**У Беларускай Вайсковай Камісіі.** Яука з дакумэнтамі афіцэрау—беларусау ідзець і сягоньня, 29-га лістапада.

**Тэхно-хэмічную лябараторыю ад**чыняе у хуткім часе група спэцыялістау дзеле вырабкі галенавых прапаратау, хэмічных прадуктау, і інш. На чале лябараторыі будуць стаяць мясцовые дактары і хэмікі.

**У некаторых жыдоускіх групах** вядуцца гутаркі аб касацыі выбарау у мястовую думу. Паказываюць на тое, што выбары былі арганізованы у нявыгадных для жыдоускага насяленьня варунках. Многім ня былі пададзены выбірацельные павесткі, многіе былі задзержаны пры агітацыі на карысьць жыдоускага спіску. Пры лепшых варунках жыды лічуць сабраць 40% галасоу.

**Польскае т-во пашырэньня гандлю і прамысловасьці у Менску** гэтымі днямі адтрымлівае ад пазнанскіх гандлева-прамысьнікау субсыдыю у 10 мільенау р., пасьля чаго опэрацыі т-ва маюць пачацца у шырокім масштабе.

**Фальшывые крэдыткі** у 50 польскіх марак зьявіліся у горадзе. Уладай адзначана шмат выпадкау прад'яуленьня такіх грошай глауным чынам, у коопэратывах. У зьвязі з гэтым проці некаторых асоб, спробаваушых збыць фальшывые крэдыткі, пачато съледцтво.

**Між саюзамі дамауласьнікау і кватэрананімацеляу** вядуцца перагаворы па пытаньню аб стварэньні кватэрнай прымірыцельнай камэры з адзінакага ліку прадстаунікоу ад дамауласьнікау і кватэрананімацеляу. Апрацованае саюзамі палажэньне будзе прадстаулено на пацьвярджэньне улады.

**У павятовую па выплаце ваенных страт камісію** (у гмаху акружнага суда) прыем просьбау ідзець далей. Разглядаць гэтые просьбы пачнуць з 10—15 сьнежня.

Просьбы павінны быць напісаны толькі на польскай мове.



**Збор хлеба** подлуг апавешчанага контынгэнту пачнецца у хуткім часе па усяму Менскаму Округу.

**Почта у Ігумене** адчынена гэтымі днямі для прыему і адпраукі лістоу.

**Бульба** апошнімі днямі патанела. Учора асьміна бульбы прадавалася па 60 р.—75 р.

**Цэны на дровы і хлеб** паменьшыліся, дзякуючы большаму падвозу з вескау. Фунт хлеба каштуе 2 р. 90 кап.


*Рэдактар-выдавец*
*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*




Менск. Друкарня Інвалідау.